ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы

*Свабода, роўнасць, братэрства!*



# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

**Заснавана ў 1991 годзе №4 (60). Субота, 24 ліпеня 1999 г. У розніцу кошт 10000 руб.**



**Горад Крычаў. Мікрараён камсамольскі.**

**Фота В. Бысва.**

## *Перасьлед іншадумцаў*

Перасьлед Касцюковіцкай настаўніцы, рэдактара нацыянальна-адраджэнцкага весніка "Матчын дар" Людмілы Леўчанкі пачаўся некалькі месяцаў назад, пасля выхаду першага нумару гэтага выдання. Яе тады звольнілі з работы ў школе і цяпер у Леўчанкі толькі некалькі ўрокаў у вячэрняй школе з мізэрнай зарплатай. Гэта, аднак, не спалохала актывістку беларусчыны і яна працягвае змагацца за пашырэнне ў Касцюковічах нацыянальна-адраджэнцкіх ідэялаў, што, зразумела, не застаецца па-за ўвагай адпаведных органаў.

Напачатку траўня Людмілу "запрасіла" па тэлефоне на "сяброўскую" сустрэчу ў райвыканкам нейкая жанчына, назваўшая сябе "следчым КДБ". Калі ж настаўніца запатрабавала выслаць ёй пісьмова афіцыйны выклік з указаннем прычын выкліку, тэлефон змоўк. І па сёняшні дзень ніякага выкліку не паследавала. Але вось 16 ліпеня ў кватэры настаўніцы а 12-й гадзіне зноў раздаўся званок. Тэлефанаваў на гэты раз мужчына. Але і ў яго Леўчанка запатрабавала афіцыйную пісьмовую позву. Яе не было. І ўсё ж а пятай гадзіне дня, калі Людміла праходзіла па вуліцы, яе каля памяшкання ўпраўлення ўнутраных спраў спыніў малады чалавек:

— Я з КДБ. Мне ўсё ж хацелася б з вамі пазнаёміцца...

Леўчанка патрабавала прад'явіць дакументы. Той паказаў. Гэта быў старшы лейтэнант КДБ Вячаслаў Федасенка.

— Нічога страшнага, я хацеў з вамі пазнаёміцца, як з рэдактарам весніка "Матчын дар".

Дапытваўся Федасенка ў Леўчанкі пра многае. І чаму яна ўжо не рэлагуе выданне Касцюковіцкай суполкі БНФ "Заклік", і ці не ёсць гэта раскол у шэрагах БНФ, і чаму яна ўваходзіла ў склад камісіі па выбарах прэзідэнта, і якія акцыі рыхтуе БНФ пасля 20 ліпеня, дзе і якім коштам друкуецца "Матчын дар". Пасля пайшлі пытанні і пра дзейнасць Касцюковіцкай суполкі ТБМ. Але не "вывудзіўшы" з куцых і недружалюбных адказаў настаўніцы нічога карыснага для сябе, Вячаслаў Федасенка завяршыў гамонку на мажорнай ноце — "прызнаннем" у "шчырай" ягонай любові да Беларусчыны ды й "Жаданнем" стаць актыўным падпісчыкам "Матчынага дару". Ні боль ні менш.

**Валянціна АКСАК.**

<u>*Заява Сакратарыята ТБМ*</u>

## У Грунвальдскай бітве была выратавана беларуская мова

У далёкім ліпені 1410 года аб'яднаныя беларуска-польскія войскі з дапамогай літоўскіх і татарскіх атрадаў разбілі пад Грунвальдам знакамітае крыжацкае войска і выратавалі свае народы ад тэўтонскай акупацыі і асіміляцыі. Перамогшы ў гэтай бітве, беларускі народ не толькі захаваў сваю незалежнасць, але і сваю мову, культуру.

Мы добра ведаем незайздросны лёс пруская і цэлага шэрагу заходнеславянскіх моў, якія былі знішчаны пасля нямецкай акупацыі тых земляў, дзе спрадвеку жылі іх носьбіты.

ТБМ не сумняваецца, што ў XXI стагоддзі незабыўная дата 15 ліпеня ўвойдзе чырвоным радком ва ўсе беларускія календары і стане афіцыйным дзяржаўным святам незалежнай, дэмакратычнай Беларусі.

## Палкоўнік – хабарнік

Былы намеснік камандзіра адной з вайсковых часцей Асіповіцкага гарнізона жыллёвыя праблемы ваеннаслужачых выкарыстаў як крыніцу ўласных даходаў. Следствам устаноўлена, што ў перыяд з 1996 па 1999 год палкоўнік К., карыстаючыся тым, што выконваў абавязкі старшыні жыллёвай камісіі часці, сістэматычна атрымліваў хабар аб бескватэрных вайскоўцаў. Палкоўнік браў хабар не толькі доларамі ЗША. Не адмаўляўся ён ад гарэлкі, шпротаў, каўбас і іншых прадуктаў харчавання.

І не толькі хабарнічаў палкоўнік. Ён таксама бессаромна выкарыстоўваў у асабістых мэтах службовы транспарт і падначаленых яму вайскоўцаў для будаўніцтва свайго лецішча, рамонту гаража і кватэры. Але адпачыць на лецішчы палкоўніку ў бліжэйшы час наўрад ці ўдасца. Ён знаходзіцца пад вартай.

## Маёр – растратчык

Былы начальнік Брэсцкага гарнізоннага Дома афіцэраў, маёр Л., халатна адносіўся да сваіх службовых абавязкаў. У выніку гэткай нядбайнасці за перыяд з 1944 па 1999 год з Дома афіцэраў кудысьці знікла маёмасць на агульную суму 1 мільярд 270 мільёнаў рублёў. Апроч таго маёр украў і для сябе маёмасці сваёй установы на 130 мільёнаў рублёў. Красці дык ужо красці!

Зараз маёр знаходзіцца за кратамі і яго лёс будзе вырашаць суд.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## Кашчунства

У Хоцімску па вуліцы набераржнай непадалёк ад майго дому ёсць гістарычны помнік, які мясцовыя жыхары называюць "гарадзішчам". Гэткае ўзвышша на беразе ракі Бесядзь. Кажуць, што ў далёкім мінулым тут было ўмацаванне на мяжы паміж Вялікім Княствам Літоўскім (гэта старажытная Беларусь) і Масковіяй. Нібыта яшчэ ў XIX стагоддзі тут стаяла, як рэліквія, драўляная гармата часоў Вялікага Князя Казіміра. Ды ніхто не ведае, дзе тая гармата цяпер.

Затое цяпер тут амаль што звалка смецця. Вакол буяе пустазелля ў рост чалавека, валяецца розны хлам. На ўзвышшы гарадзішча да слупка прымацавана іржавым дротам шыльда з надпісам, які сведчыць, што тут не што іншае, а помнік гістарычны, ахоўваемы дзяржавай. Якое кашчунства!

Я — прыезджы, з Гарадзеншчыны. Але маё сэрца сціскаецца ад болю, што тут такія здзекі над гістарычным мінулым роднай Беларусі. Я ніяк не магу зразумець, чаму мясцовыя ўлады і жыхары такія абыякавыя да памяці аб мінулым, аб продках, такія абыякавыя да роднай мовы, культуры, да сваёй багатай гістарычнай спадчыны.

**Іван ВЕРАБЕЙ.**

## Чакаю ўспамінаў

Сёлета ўся культурная грамадскасць Беларусі адзначае 75-гадовы юбілей з дня нараджэння слаўнага земляка Уладзіміра Васільевіча Анічэнкі. Ён нарадзіўся і вырас у вёсцы Янаўка Хоцімскага раёна. Усё сваё сталае жыццё У.Анічэнка даследваў дыялектную мову Хоцімшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны. З 1966 па 1988 гады вучоны выканаў цэлы комплекс прац "Скарыніяна".

У 1969 годзе ён выдае грунтоўную манаграфію "Беларуска-Украінскія пісьмова-моўныя сувязі". Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле падрыхтаваны да друку "Слоўнік мовы Янкі Купалы". Ён выдаў са сваімі прадмовамі і навуковымі каментарамі рукапісы помніка старой беларускай пісьменнасці "Александрыя" і зборніка 19 стагоддзя "Беларускі казачны эпас". У.Анічэнка —складальнік хрэстаматый "Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы" і "Пісьменнік і мова".

Спадзяюся атрымаць ад землякоў вучонага ўспаміны пра яго дзіцячыя і юнацкія гады, іншыя матэрыялы пра У.В.Анічэнку.

Свае лісты дасылайце на адрас: 210035, г. Віцебск-35, пр. Маскоўскі, 74-1,2 скрынка, Карнелюку К.С.

**З павагай**
**Канстанцін КАРНЯЛЮК, краязнаўца.**

## *Аб'ява*

Для работы ў рэдакцыі газеты "Беларускі Усход" тэрмінова патрабуюцца вопытныя **журналісты** на пасады рэдактараў (можна па сумяшчальніцтву), карэспандэнцкіх пунктаў у Чэрыкаве, Горках, Шклове, Бялынічах, Асіповічах і Глуску, **прадаўцы** газеты ў розніцу ў тых жа гарадах і раёнах, а таксама ў Хоцімскім, Касцюковіцкім і Клімавіцкім раёнах, **спрактыкаваныя аператары камп'ютарнага набору** і вёрскі газеты, **рэкламныя агенты.** Прэтэндэнты залічваюцца ў штат рэдакцыі пасля выканання выпрабавальнага задання па прафесіі, на якую прэтэндуюць.

З заявамі звяртацца да галоўнага рэдактара. Даведкі па тэлефонах: 8-247-22-9-89 і 8-247-22-0-09 (для жыхароў Хоцімскага раёна — 22-9-89 і 22-0-09).

## Паважаныя чытачы!

Каб газета "Беларускі Усход" была больш змястоўнай і цікавай, просім усіх вас — дасылайце нам свае лісты, пажаданні. Тэлефануйце, падказвайце пра што больш пісаць, рабіце заўвагі — што, на ваш погляд, не трэба было б змяшчаць на старонках газеты. Паведамляйце, што вам падабаецца ў газеце і што не падабаецца вам. Будзем удзячны за ўсе вашы парады і прапановы.

**Рэдакцыя.**

## Увага!

Працягваецца падпіска на газету "Беларускі Усход" з любога чарговага месяца. Напамінаем, што падпісны кошт на газету да 1 кастрычніка застанецца нязменным: на 1 месяц — 32 тысячы рублёў, на 2 месяцы — 64 тысячы, на тры — 96 тысяч. Калі вы ў ліпені і жніўні месяцы да 20 чысла аформіце падпіску да канца года на 4 месяцы, то заплоціце ўсяго 128 тысяч рублёў. А калі на той жа тэрмін аформіце ў верасні, то ўжо значна даражэй, бо з пачаткам падпіскі на чацвёрты квартал падпісны кошт узрасце на 50 адсоткаў, гэта значыць, што падпіска на адзін месяца з 1 кастрычніка будзе каштаваць 48 тысяч рублёў, а на чацвёрты квартал (тры месяцы) —144 тысячы. Падпісаўшыся на "Беларускі Усход" ў жніўні да канца года (на 4 месяцы) вы зэканоміце 48 тысяч рублёў.

Спяшайцеся на пошту і выпісвайце "Беларускі Усход" да канца года!

**Рэдакцыя.**

## Вызначыўся Шклоў

Газета "Беларускі Усход" аднавіла свой рэгулярны выпуск ціха, без рэкламы, нават без аб'яўлення падпіскі. Яна толькі напярэдадні падпісной кампаніі была ўнесена ў падпісны каталог і многія падпісчыкі не ведалі пра існаванне такой газеты. Нягледзячы на гэта на газету падпісаліся многія жыхары 16 раёнаў вобласці. Актыўней за ўсіх правялі падпіску Шклоўскія паштальёны, бо жыхары Шклоўскага раёну праявілі найбольшую цікавасць да гэтага выдання. Тут "Беларускі Усход" выпісалі 585 чалавек. Шклоў заняў першае месца па падпісцы на нацыянальную дэмакратычную газету. Відаць, не выпадкова...

На другім месцы — Клімавіцкія падпісчыкі. Тут іх 226. Далей ідуць Хоцімскія, Магілёўскія і Бялыніцкія. У першую сямёрку трапілі таксама Горацкія і Касцюковіцкія падпісчыкі.

У Слаўгарадскім раёне ў нас пакуль адзін падпісчык. А вось у Дрыбінскім, Краснапольскім, Глускім, Клічаўскім, Круглянскім і Чаускім раёнах "Беларускі Усход" не мае пакуль ніводнага падпісчыка. У гэтыя раёны і ў розніцу ў шапікі саюздруку трапляе ўсяго па 10 асобнікаў гэтага выдання.

Рэдакцыя спадзяецца, што пра нашу газету даведаюцца людзі і ў гэтых раёнах. І тут з'явяцца нашы падпісчыкі.

